# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

4 верасня 2015 года №36 **(1062)**





**Новы стандарт малака: карова павінна быць ідэальна здаровая**

старонка 3

# Грошы скончыліся. Будаўнікі сышлі

## Ці дарамантуюць бібліятэку ў Маладзечне да халадоў?



Чытайце на 2-й старонцы

Фота Наталлі ТУР.

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# Ці можна секчы дрэвы на сваім участку

ВІЛЕЙКА

**Чытачы "РГ" працягваюць пільна сачыць за высечкай лесу. Адзін з неабыякавых чытачоў паведаміў, што каля Асіпавіцкага вадаёма сякуць сосны.**



Пасяліцца непадалёк ад вадаёма змогуць пакупнікі трох участкаў каля Асіпавіцкай сажалкі. Для зручнасці для новых гаспадароў высеклі сосны, якія раслі на гэтай тэрыторыі. Ілюстрацыйнае фота.

Чытач звярнуўся ў рэдакцыю з пытаннем: хіба можна секчы дрэвы адразу каля вадаёма?

Асіпавіцкі вадаём – папулярнае месца адпачынку не толькі для віляйчан. Чытач упэўнены, што яго выгляд павінны асабліва клапаціць і ўладу, і мясцовых жыхароў.

Старшыня Асіпавіцкага сельвыканкама **Мікалай Гіль** у курсе тэмы. Ён паведаміў, што высечка дрэў каля Асіпавіцкага вадаёма зробленая ў адпаведнасці з заканадаўствам, пры рабоце выканалі ўсе неабходныя нормы.

– 29 ліпеня прадалі тры ўчасткі пад будаўніцтва калі вадаёма, – удакладняе ён. – Іх набылі ў прыватную ўласнасць. Новыя гаспадары будуць будаваць там жыллё, а як пабудуеш, калі на ім дрэвы растуць? Таму сосны і высякалі. Калі дрэва ў межах прыватнай уласнасці, гаспадар мае поўнае права яго ссекчы. Усё зроблена з выкананнем нормаў, можаце прыехаць і памераць.

Яго словы пацвердзіў і начальнік інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Аляксандр Альшэўскі**.

**У прыбярэжнай паласе выдзяляць участкі пад будаўніцтва забаронена.**

А вось у водаахоўнай зоне рашэннем райвыканкама можна выдзяляць участкі. Калі іх набываюць у прыватную ўласнасць, то могуць высякаць дрэвы.

Паводле рашэння Вілейскага райвыканкама ад 27 кастрычніка 2006 года, мінімальная шырыня водаахоўнай зоны сажалкі ў Асіпавічах – 200 метраў, а прыбярэжнай зоны – 20 метраў.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

## У Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы прыпынілі рамонт

*Пачатак тэмы на 1-й старонцы.*

МАЛАДЗЕЧНА

**Прычынай спынення стала недастатковае фінансаванне.**

Як расказаў "Рэгіянальнай газеце" загадчык аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі **Аляксандр Рамановіч**, ПМК-212, якая выконвае рамонтныя работы, выбрала ўсе выдзеленыя грошы.

– На гэтым тыдні будзе сустрэча са старшынёй Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандрам Яхнаўцом**, – кажа Аляксандр Віктаравіч, – трэба вырашыць гэта пытанне да пачатку ацяпляльнага сезона.

Аляксандр Рамановіч патлумачыў, што ў бібліятэцы яшчэ не зрабілі столь. А без столі, па правілах, ацяпленне ў памяшканне не дадуць.

– У бібліятэцы захоўваецца цяпер 750 тысяч кніг. Калі ў бібліятэцы не будзе цяпла, гэта значыць, кнігі могуць сапсавацца ад вільгаці і марозу. Трэба зрабіць усё магчымае, каб гэтага не здарылася.

Начальнік вытворчага аддзела ПМК-212 **Леанарда Плавінская** расказала, што выдзеленых грошай, а гэта 1 мільярд 780 тысяч рублёў, хапіла на тое, каб у бібліятэцы зрабіць дах.

Увесь жа праект ацэнены ў чатыры мільярды рублёў.

– Я думаю, мы пойдзем насустрач гарадскім уладам і завяршым рамонт бібліятэкі без папярэдняй аплаты. Зараз наш дырэктар у выканкаме, якраз вырашае гэтае пытанне.

**Наталля ТУР.**

СВЯТЫ

## Упершыню ладзяць фестываль дзіцячай кнігі

МАЛАДЗЕЧНА

**У суботу, 5 верасня, у парку Перамогі пройдзе праграма "Я чытаю. Ты чытаеш. Мы чытаем".**

На фестывалі дзіцячай кнігі пройдуць сустрэчы з беларускімі дзіцячымі пісьменнікамі, конкурсы, забаўляльная праграма, інтэрактыўныя выставы, гульні і віктарыны.

Для дзетак правядуць майстар-класы на выразанне кніжных закладак.

У яе межах будзе працаваць некалькі разнастайных пляцовак, адна з іх у амфітэатры. Адну з пляцовак прадстаўляць вядоўцы курсаў беларускай мовы "Мова нанова" ў Маладзечне **Наталля Тур** і **Настасся Роўда**.

**Сёлетні сезон курсаў "Мова нанова" распачынаецца ў аўторак, 15 верасня, у бібліятэцы "Верасок". Пачатак а 18 гадзіне.**

Пераможцаў конкурсаў чакаюць прызы, паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**.

Свята пачнецца ў 11 гадзін і закончыцца ў 14.

**Аддзел інфармацыі.**

ПАМЯЦЬ

## Памёр Станіслаў Ляшковіч

**З Польшчы прыйшла сумная вестка. У Варшаве памёр ураджэнец Вілейшчыны, доктар эканамічных навук, пісьменнік і публіцыст, аўтар некалькіх кніг успамінаў Станіслаў Ляшковіч.**

Станіслаў Ляшковіч нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Залазоўе.

Доктар эканамічных навук (1988). Пачатковую школу скончыў у роднай вёсцы, сярэднюю ў 1949 годзе ў Польшчы пасля рэпатрыяцыі ў 1945 годзе.

Вучыўся ў вышэйшай школе марскога гандлю ў Сопаце. Закончыў вышэйшую школу гандлю ў Варшаве. Амаль 40 гадоў працаваў у Міністэрстве міжнароднага гандлю ў Варшаве і за мяжой (Швейцарыя, Аўстрыя, ФРГ). Займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. Быў членам савета Варшаўскай гандлёвай палаты, член рады фонду "Палонія".

Актыўна працаваў у стварэнні польскага гаспадарчага самакіравання. Узнагароджаны Залатым Знакам польскай нацыянальнай Гандлёвай палаты.

Аўтар кніг "Запіскі работніка замежнага гандлю ПНР" (2000), "З-пад страхі на салоны" (2003), "Шэршань. Успаміны дзіцяці з Віленшчыны" (2003), „PlusquamPerfectum, або Жыццё Яся М." і шматлікіх публікацый па эканоміцы.

Памёр 2 ліпеня ва ўзросце 87 гадоў, пакінуўшы жонку і сына з сям'ёй. Пахаваны наш зямляк 7 ліпеня ў Варшаве на Брудноўскіх могілках.

**Мікола ГАЙДУК.**

КАДРЫ

## У "Лядовым палацы" новы кіраўнік

МАЛАДЗЕЧНА

Як паведамілі ў аддзеле кадраў спартыўна-забаўляльнага цэнтра, новы дырэктар заступіў на пасаду 26 жніўня.

**Аляксандр Уладзіміравіч Ількевіч** працаваў да гэтага дырэктарам фабрыкі мяккай мэблі "Маладзечнамэблі", удакладнілі ў аддзеле кадраў папярэдняга месца працы.

Падчас прадстаўлення новага кіраўніка на планёрцы ў райвыканкаме кіраўнік раёна **Аляксандр Яхнавец** паведаміў, што Аляксандр Уладзіміравіч нарадзіўся ў 1965 годзе ў Вілейцы.

Папярэдняга кіраўніка знялі з пасады 3 снежня 2014 года.

**Аддзел інфармацыі.**

АКЦЫІ

## "РГ" ладзіць сустрэчу з чытачамі

МАЛАДЗЕЧНА

Калектыў "Рэгіянальнай газеты" ладзіць сустрэчу з чытачамі ў панядзелак, 7 верасня.

Падчас мерапрыемства ўдзельнікі даведаюцца, як "РГ" здзяйсняе мары і чаму варта быць у нашай кампаніі.

Удзельнікаў чакае віктарына на тэму "Рэгіянальнай газеты". А таксама выступленне беларускага гурта "Гутатэлі" і спявачкі **Алесі Кульшы**, якая атрымала Гран-пры рэгіянальнага фестывалю-конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля".

Сустрэча адбудзецца ў Радашкавіцкім керамічным заводзе, пачатак а 15 гадзіне.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЗЯМЛЯ

# Старт: 10 мільёнаў за сотку

## Агляд зямельных участкаў па Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Усяго ў раёне на 1 жніўня прапануюць 461 участак пад будаўніцтва і абслугоўванне жылога дома агульнай плошчай амаль 79 гектараў.**

Такія дадзеныя дае афіцыйны сайт Вілейскага райвыканкама.

Найбольш прапануюць Крывасельскі (60) і Любанскі (55) сельвыканкамы. У райцэнтры прадугледжана на продаж 47 участкаў. Плошча большасці з іх вагаецца ад 0,15 да 0, 25 гектара.

У вёсцы Кучкі Вязынскага сельсавета, якая размяшчаецца на беразе Вілейскага вадасховішча, прапануюць участак 0,1466 га з пачатковай цаной лота 150 мільёнаў рублёў. Аўкцыён прызначаны на 30 верасня. У вёсцы Асіпавічы прапануюць участак 0,1314 га па вуліцы Азёрнай з пачатковай цаной амаль 13 мільёнаў рублёў, участак 0,1822 га па вуліцы Новай – ад 37 мільёнаў, участак 0,2066 у аграгарадку Шылавічы – з першапачатковай цаной 87 мільёнаў рублёў.




Дыяграма "РГ", фота photos.wikimapia.org

У самой Вілейцы на аўкцыён на 2 верасня выстаўляюць участак плошчай 0,0020 га ад 583 мільёнаў. Параўнаць стартавую цану за сотку прапанаваных участкаў можна на дыяграме.

### Што прапануюць інвестарам

На аўкцыён па продажы права заключыць дагавор арэнды пад будаўніцтва шматкватэрнага дома выдзяляюць участак па вуліцы Гарадзішчанскай. У ім мяркуюць размясціць 80-кватэрны дом.

У Любані прапануюць на аўкцыён участак пад станцыю па рамонце і абслугоўванні аўтамабіляў з пунктам харчавання і пастаялым пунктам.

Ёсць тры прапановы для інвестараў, усе ў мікраралёне Паўночны 2. На ўчастку з арыенціровачным кадастравым коштам у 68 тысяч 500 у.а. можна размясціць станцыю тэхабслугоўвання.

Прапануюць таксама месца пад транспартна-лагістычны цэнтр з арыенціровачным кадастравым коштам у 669 тысяч 120 у.а. Месца пад будынак гандлю, матэля прапануюць за 49 тысяч 200 у.а.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● ВЫТВОРЧАСЦЬ

# Новы стандарт малака: карова павінна быць ідэальна здаровая

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 1 верасня ўступілі ў сілу больш жорсткія патрабаванні да сырога малака.**

Ад другога гатунку Беларусь адмаўляецца. Цяпер усё малако падзяляецца на наступныя: экстра, вышэйшы і першы гатункі.

Як удакладняе БелТА, змяненні дзяржстандарту "Малако каровіна сырое. Тэхнічныя ўмовы" ініцыявала Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання. Іх зрабілі для павышэння якасці і канкурэнтаздольнасці малака і малочнай прадукцыі, якія вырабляюцца ў Беларусі.

У Дзяржстандарце ўпэўненыя, што забеспячэнне выпуску малака ў адпаведнасці з новымі патрабаваннямі будзе стымуляваць вытворцаў да павышэння санітарна-гігіенічнага ўзроўню вытворчасці.

### Калі малако не здасі, можна паіць цялят

Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі начальніка лабараторыі Маладзечанскага малочнага камбіната **Надзею Улізьку**.

– Малако другога гатунку мы ўжо не прымаем увогуле. Гатункі падзяляюцца ў залежнасці ад таго, колькі саматычных клетак змяшчаецца ў адным кубічным сантыметры. Яшчэ адзін паказчык – утрыманне клетак бактэрый. Новы стандарт патрабуе, каб карова, ад якой узялі малако, была ідэальна здаровая.

Правяраюць сыравіну спецыяльным аналізатарам малака, калі яно не адпавядае норме, вяртаюць назад.

**Патрабаванні да гатункаў малака**

| Гатунак | Утрыманне саматычных клетак на кубічны сантыметр | Утрыманне клетак бактэрый на кубічны сантыметр |
|---|---|---|
| Першы | не больш за 500 тысяч | не больш за 500 тысяч |
| Вышэйшы | не больш за 400 тысяч | не больш за 300 тысяч |
| "Экстра" | не больш за 300 тысяч | не больш за 100 тысяч |

Вяртаць малако даводзіцца не так часта, таму што на фермах ёсць свае спецыялісты: ветэрынарныя дактары, лабаранты, заатэхнікі. Яны там самі сочаць за якасцю свайго малака.

Калі малако не адпавядае норме, яго здаць на малочны камбінат нельга, затое ім можна паіць цялят.

Вялікая колькасць саматычных клетак, якія знаходзяцца ў тым ліку ў вымі, вядуць да зніжэння якасці малака. З малака з высокім утрыманнем саматычных клетак немагчыма вырабіць якасныя прадукты: сыр, масла, кефір і іншыя.

**Наталля ТУР.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.08 руб. | 3.09 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 17 700,00 | **17 491,00** |
| Еўра | 20 356,00 | **19 692,00** |
| Злоты | 4 875,69 | **4 645,99** |
| Расійскі рубель | 255,13 | **262,43** |
| Грыўня | 784,00 | **788,77** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 2.09** | | |
| Еўра | 20300/20880 | **19500/19800** |
| Долар ЗША | 17650/17950 | **17350/17600** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 26.08 Цана руб. | 2.09 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 57 000 | **54 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 29 100 | **28 900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 95 000 | **95 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 38 000 | **37 900** |
| Селядзец, 1 кг | 41 900 | **48 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 129 000 | **95 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 800 | **14 000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 14 500 | **15 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12 000 | **12 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 22 000 | **22 800** |
| Маянэз, 200 г | 5 000 | **5 000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12 500 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 7 000 | **10 200** |
| Капуста, 1 кг | 5 000 | **4 200** |
| Морква, 1 кг | 7 000 | **6 000** |
| Баклажаны, 1 кг | 13 000 | **10 900** |
| Лімоны, 1 кг | 35 000 | **26 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 25 000 | **24 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 27 000 | **26 900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 32 000 | **27 600** |
| Ківі, 1 кг | 39 000 | **39 900** |
| Нектарыны, 1 кг | 20 000 | **19 500** |
| Буракі, 1 кг | - | **5 400** |
| Памідоры, 1 кг | 6 500 | **7 800** |
| Агуркі, 1 кг | 6 500 | **5 900** |
| Перац, 1 кг | 12 500 | **10 500** |
| Вінаград, 1 кг | 30 000 | **27 500** |
| Бананы, 1 кг | 14 500 | **10 900** |
| Кавун, 1 кг | 5 000 | **4 500** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 8 000 | **9 500** |
| Яблыкі, 1 кг | 10 500 | **8 000** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 16 500 | **29 900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | **15 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 4 000 | **5 000** |
| Сала, 1 кг | 140 000 | **140 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 22 000 | **22 000** |
| Мёд, 0,5 л | 55 000 | **55 000** |



Мужчына жыў у лесе, а патрэбныя рэчы "пазычаў" у вёсцы.

Фота fotostoila.ru

● "ПРАМАЯ ЛІНІЯ"

# Злодзей прыйшоў з лесу па сала

## Мужчына жыў у лесе на Вілейшчыне і скраў у вяскоўцаў харчы і ровар

ВІЛЕЙКА

**Раніцай 12 жніўня ў Вілейскі РАУС паступіла паведамленне ад жыхаркі вёскі Нарача.**

У яе з падвала шматкватэрнага дома па вуліцы Маладзёжнай скралі дарожны ровар.

Потым яшчэ двое жыхароў гэтай вёскі заявілі, што нехта пранік у іх падвалы. Скралі там харчы. У прыватнасці, трохлітровыя слоікі з салам.

Супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі, што злачынствы ўчыніў 58-гадовы ўраджэнец Іўеўскага раёна. Ён неаднаразова судзімы, без пастаяннага месца жыхарства.

Шляхі прывялі яго на Вілейшчыну. Мужчына каля двух тыдняў жыў у лесе паблізу вёскі Нарача. Ровар і частку выкрадзенага сала знайшлі і забралі.

Пра ўсё гэта расказаў часовы выканальнік абавязкаў Вілейскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Дзмітры Антановіч**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● АХОВА ЖЫВЁЛ І РАСЛІН

## Прадпрыемства скінула гной у сажалку

ВАЛОЖЫН

**27 жніўня склалі адміністрацыйны пратакол на прадпрыемства "Пяршаі-2014".**

13 жніўня ў 11 гадзін прадпрыемства забрудзіла сажалку ў вёсцы Малая Люцінка – скінулі ў ваду масы з утрыманнем гною.

Факты гібелі рыбы не зафіксавалі.

### Забралі пасведчанне паляўнічага

Жыхар вёскі Сцяцкі Валожынскага раёна 4 жніўня ў 19:30 у паляўнічых угоддзях на Валожыншчыне з паляўнічай стрэльбай паляваў без дазволу ў забароненым месцы.

Яго зброю забралі і здалі ў райаддзел міліцыі.

Забралі таксама пасведчанне на права паляваць.

26 жніўня на мужчыну склалі адміністрацыйны пратакол.

**Кірыл ЧАБАН, намеснік начальніка Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

● КРЫМІНАЛ

### У Валожыне інваліда-бяспраўніка двойчы за год затрымалі п'яным за рулём

ВАЛОЖЫН

Пра здарэнне расказаў следчы Валожынскага РАСК **Ілля Глінскі**.

Жыхара вёскі Дубоўцы ўжо затрымлівалі сёлета нецвярозым за рулём. Тады ў яго забралі правы.

Аднак у жніўні 55-гадовы кіроўца, інвалід 3 групы, зноў садзіцца п'яным за руль свайго аўтамабіля "Запарожац", які абсталяваны спецыяльна для інвалідаў.

– Давядзецца караць парушальніка, – падсумаваў Ілля Глінскі.

**Наталля ТУР.**

### Пенсіянерка скрала кашалёк

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 21 жніўня ў аддзяленні "Беларусбанка".

33-гадовая жанчына ў касе №2 аплаціла паслугі і забылася кашалёк на стойцы банка. Там было 600 тысяч рублёў.

Калі праз некалькі хвілін яна вярнулася, кашалька ўжо не было. Жанчына тут жа звярнулася ў міліцыю.

Камера відэаназірання зафіксавала, што кашалёк забрала 53-гадовая жанчына, якая стаяла наступнай у чарзе.

– Зламысніца затрымалая, справа перададзеная ў суд, – расказаў "РГ" следчы Маладзечанскага райаддзела СК **Юры Багушэвіч**.

**Наталля ТУР.**

### У Вілейцы крадуць акумулятары – выключна з "шасцёрак"

ВІЛЕЙКА

Адразу тры жыхары Вілейкі 23 жніўня звярнуліся ў міліцыю з паведамленнем пра тое, што з іх аўтамабіляў скралі акумулятары.

Прычым залез злодзей выключна ў "Жыгулі"-"шасцёркі".

Знаходзіліся аўтамабілі ў мікрараёне "Зеніт" на стаянках паблізу дома №62 па вуліцы Чапаева, дамоў №№14, 27 па вуліцы Гагарына.

Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж.

**Аддзел інфармацыі.**

### У Мядзеле скралі два матацыклы – падазраюць школьнікаў

МЯДЗЕЛ

У міліцыю 27 жніўня звярнуўся пенсіянер з Мядзела. Паведаміў, што нехта ўзламаў дзверы двух яго гаражоў у райцэнтры. Адтуль зніклі матацыкл з каляскай "ІЖ Юпітэр-4" і матацыкл "ІЖ Планета".

Супрацоўнікі аддзялення крымінальнага вышуку ўстанавілі, што злачынства здзейснілі тры вучні дзявятага і адзін – сёмага класа, мясцовыя жыхары.

Узбудзілі крымінальную справу за крадзеж. Матацыклы забралі.

**Паводле УУС аблвыканкама.**

● СЛУЖБА 101

## Згарэў трактар, а праз яго і хлеў

ВАЛОЖЫН

**25 жніўня загарэўся трактар на сельскагаспадарчым полі паблізу вёскі Узбалаць на Валожыншчыне.**

Гарэў трактар МТЗ-1221. З-за моцнага ветру і таго, што агонь хутка распаўсюджваўся па полі, загарэўся хлеў, які знаходзіўся на ўскрайку поля.

Хлеў, а таксама трактар і пяць гектараў іржышча згарэлі. Дачны дом гаспадара хлява ўдалося выратаваць, і ў выніку пажару ён не пацярпеў.

Праверка паказала, што прычынай пажару стаў рулонны прэс-падборшчык 2012 года выпуску.

На момант узнікнення пажару прэс-падборшчык знаходзіўся ў руху, збіраў і прасаваў салому з валкоў на полі паблізу Узбалаці.

Трактарам кіраваў 53-гадовы механізатар. Калі загарэўся трактар, механізатар спыніў яго, спрабаваў вогнетушыцелем затушыць полымя.

Але з-за інтэнсіўнага распаўсюджвання агню патушыць загаранне самастойна не змог, у полі працаваў адзін.

Калі зразумеў, што патушыць пажар уласнымі сіламі не зможа, паведаміў пра здарэнне дырэктару ААТ "Агра-Дубінское".

Затым паспрабаваў адлучыць і адагнаць трактар на бяспечную адлегласць ад палаючага прэс-падборшчыка, але не змог.

Найбольш верагоднай прычынай пажару, лічаць спецыялісты, стала загаранне саломы з-за высокай тэмпературы.

**Наталля ТУР.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Сутыкнуліся жанчыны-кіроўцы

АСТРАВЕЦ

**У першы дзень восені ў 7:40 ў Астраўцы на завулку Кастрычніцкім не раз'ехаліся дзве жанчыны.**

Адна кіравала машынай, другая – роварам.

Кіроўца "Хонды" выязджала з другараднай дарогі і паварочвала налева. Яна не заўважыла веласіпедыстку, якая таксама паварочвала налева, але ехала па галоўнай дарозе.

У выніку аварыі веласіпедыстку шпіталізавалі.

**Паводле gaigrodno.by.**

● ВЫШУК

## Шукаюць Эдуарда Чарнецкага

ВАЛОЖЫН

**Прапаў без вестак Эдуард Віктаравіч Чарнецкі.**



Ён нарадзіўся 13 снежня 1981 года ў вёсцы Татары Валожынскага раёна, а жыў у вёсцы Рагалёўшчына гэтага ж раёна, у доме 21.

Сёлета 28 чэрвеня з дому ён паехаў у Гомель, каб працаўладкавацца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. 6 ліпеня з Масквы Эдуард Чарнецкі тэлефанаваў сваёй сястры і паведаміў, што застаўся без грошай. Больш на сувязь не выходзіў, і цяпер яго месцазнаходжанне невядомае.

**Прыкметы:** мужчыну на выгляд 35-40 гадоў, высокага росту – 175-180 см, сярэдняга целаскладу, плечы гарызантальныя, твар трохвугольны, смуглы, еўрапейскага тыпу. Лоб сярэдні, вертыкальны, вельмі выступаюць надброўныя дугі. Бровы па форме дугападобныя, нізкія. Вочы шэрыя, нос выпуклы, рот сярэдні, губы тонкія, падбародак выступае. Вушы сярэднія, трохвугольныя, валасы коратка падстрыжаныя, светла-русыя, прамыя. Голас глухі, гаворка ясная, гаворыць марудна. Памер абутку 42-43, ходзіць хутка.

**Асобыя прыкметы:** курыць, злоўжывае спіртнымі напоямі.

Усіх, хто ведае што-небудзь пра Эдуарда Віктаравіча Чарнецкага, просім паведаміць у Валожынскі РАУС па тэлефонах: 8-01772 5-53-02, 5-40-21 (дзяжурная часць), мабільныя: 8 (029) 6855302 (Вэлком), 8 (029) 5076698 (МТС) ці ў бліжэйшы аддзел міліцыі па нумары 102.

**Паводле Валожынскага РАУС.**




Выхаванцы атрымалі ад арганізатараў праекта падарунак – кніжку-размалёўку на тэму энергаэфектыўнасці.

ЭКАЛОГІЯ

# Дашкольнікі вучылі энергазберажэнню сталых людзей

АШМЯНЫ

**Незвычайную акцыю "Час мяняць звычкі" зладзіла адміністрацыя ашмянскіх ясляў-садка №6.**

Спачатку юныя выхаванцы паказалі гасцям невялікі перфоманс на тэму энергазберажэння.

У сваёй прэзентацыі загадчыца садка **Марына Мельнікава** расказала пра асаблівасці фарміравання ў дзяцей дашкольнага ўзросту навыку эканомнага выкарыстання рэсурсаў і пра тое, якую работу ў гэтым кірунку праводзяць у дашкольнай установе ў межах праекта "Энергаэфектыўнасць у школах".

А пасля пачалося самае цікавае: усе ўдзельнікі мерапрыемства перамясціліся ў аддзяленне дзённага знаходжання тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Ашмянскага раёна.

## Гулялі ў дзень нараджэння лямпачкі

Тут пры поўным аншлагу юныя выхаванцы ясляў-садка правялі майстар-клас па навучанні энергаэфектыўнасці і зберажэнні паліўна-энергетычных рэсурсаў для сталых людзей і людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

Навучанне было даволі незвычайным, з выкарыстаннем сучасных методык. Выкарысталі і тэатральную пастаноўку, і танцавальныя нумары з разнастайнымі рэквізітамі, парадзійныя мізансцэны, інсцэніроўкі басняў.

Выхаванцы садка **Сафія Вайда** і **Ксенія Бітэль** правялі вясёлую прэзентацыю дзіцячай навуковай практычнай гульні "Дзень нараджэння лямпачкі". Гэтую работу надрукавалі ў жнівеньскім нумары часопіса "Вясёлка".

Акрамя насычаных інфармацыйнага і навучальнага складнікаў, усе нумары мелі ярка выяўлены пазітыўны тэрапеўтычны эфект. Публіка доўга не хацела адпускаць юных артыстаў і хацела яшчэ больш часу правесці разам.

Напрыканцы ўдзельнікі падарылі публіцы буклеты-памяткі па энергаэфектыўнасці, у распрацоўцы якіх самі ўдзельнічалі.

Каманда праекта "Энергаэфектыўнасць у школах" пасля прагляду відэаролікаў аб прыгодах "Хуткай энергетычнай дапамогі" падарыла хлопчыкам і дзяўчынкам кніжку-расфарбоўку, зробленую па матывах прагледжаных мультыкаў.

## Як укласці грошы, каб зэканоміць

Чатыры ўстановы адукацыі, якія выбралі ў якасці пілотных аб'ектаў праекта "Энергаэфектыўнасць у школах", ладзяць разнастайныя мерапрыемствы ў межах рэалізацыі ўласных праектных ініцыятыў. У праекце ўдзельнічаюць чатыры ўстановы адукацыі Беларусі: яслі-садок №6 у Ашмянах, яслі-садок №45 у Гродне, сярэдняя школа №4 у Дзяржынску, Віцебскі дзяржаўны прафесійны каледж №1. Кіраўнік праекта – **Сяргей Нікіцін**.

Праект рэалізуюць у межах распрацоўкі інтэграванага падыходу да расшырэння праграмы па энергазберажэнні. Праект фінансуе Еўрапейскі Саюз. Яго агульны бюджэт на чатыры ўстановы адукацыі – два мільярды еўра. Што тычыцца ашмянскага садка, папярэдне на яго плануюць выдзеліць каля 400 тысяч долараў, прычым 40% выдаткаў пакрывае мясцовая ўлада.

У межах праекта прадугледжаны такія рамонтныя работы, якія дазволяць будынку эканоміць энергію.

**Страты за кошт вентыляцыі складаюць каля 40% ад усіх цеплавых страт будынкаў.**

У яслях-садку №6 запланаваныя наступныя мерапрыемствы:

1. Усталяваць сонечныя калектары, якія будуць награваць ваду.
2. Замяніць вокны на шклопакеты.
3. Уцяпліць сцены і дах.
4. Замяніць усе лямпачкі на энергазберагальныя.
5. Усталяваць утылізатары цеплыні, якія падаграваюць прыточнае паветра.

**Пасля энергазберагальнага рамонту за цеплаэнергію давядзецца плаціць менш амаль на 70%, за электрычнасць – на 25-30%.**

**Інфармацыя забяспечаная праектам "Энергаэфектыўнасць у школах".**

ЦЭНТР ГІГІЕНЫ

# Парушэнні пры продажы прадуктаў: спынілі 21 аб'ект харчовага гандлю

МАЛАДЗЕЧНА

**Спецыялісты Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі працягваюць актыўную барацьбу па кантролі за патрабаваннямі санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства на значных аб'ектах.**

Сярод іх пункты вытворчага гандлю, грамадскага харчавання, рынкі.

Як паказваюць працяглыя праверкі, да ідэальнага парадку на гэтых аб'ектах яшчэ далёка. Знойдзеныя парушэнні на гандлёвых аб'ектах, небяспечныя ў эпідэміялагічных адносінах. Нездавальняючы санітарны стан наступных аб'ектаў: "Дэкоміс-Трэйд", "Парфяновіч", "ТЭС-плюс" і іншыя.

У шэрагу прадпрыемстваў не выконваюць кантроль за ўмовамі захоўвання прадуктаў, прадаюць тавары без маркіроўкі ці з няпоўнай інфармацыяй пра тавар. Прадавалі пратэрмінаваныя прадукты ў "Дэкоміс-Трэйд" і "Раснафтазахад".

За жнівень па выніках праверкі забаранілі прадавацъ 210 кілаграмаў прадуктаў негарантаванай якасці і бяспекі. Сярод прычын: парушэнне тэмпературных умоў захоўвання, пратэрмінаванасць, адсутнасць маркіроўкі з інфармацыяй для спажыўца.

Спынілі дзейнасць 21 аб'екта харчовага гандлю.

Прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці і далі штраф 37 службовым асобам на 46 мільёнаў рублёў. Пяці юрыдычным асобам далі штраф на 30 мільёнаў рублёў.

Знойдзеныя парушэнні гавораць пра адсутнасць належнага кантролю, безадказнасць работнікаў і адміністрацыі.

Кіраўнікам трэба перагледзець сваё стаўленне да патрабаванняў санітарных норм і правілаў на прадпрыемствах харчовага гандлю і грамадскага харчавання. Парушэнні санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства найперш небяспечныя для жыцця і здароўя спажыўцоў.

**Таццяна КУГАРА,**
**доктар-гігіеніст,**
**загадчыца аддзялення гігіены харчавання аддзела гігіены ЦГЭ.**

ДЗЯРЖСТАНДАРТ

# Гарантыя якасці і бяспекі абавязковая для тавараў лёгкай прамысловасці

МАЛАДЗЕЧНА

**Аддзел дзяржнагляду Маладзечна сёлета правёў праверкі суб'ектаў гаспадарчай дзейнасці, якія вырабляюць і прадаюць тавары лёгкай прамысловасці для дзяцей.**

Усяго правялі 11 праверак. Ва ўсіх выпадках былі парушэнні тэхрэгламентаў Мытнага саюза "Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці" і "Аб бяспецы прадукцыі, прызначанай для дзяцей і падлеткаў" па якасці, маркіроўцы, пацвярджэнні адпаведнасці.

Па выніках праверак інспекцыя выдала прадпісанні аб забароне рэалізацыі тавараў на 200 мільёнаў рублёў. Склалі пратаколы аб адміністрацыйнай адказнасці на юрыдычных, фізічных асоб і прадпрымальнікаў. Суд спагнаў штрафы на 50 мільёнаў рублёў.

Звяртаем увагу, што толькі да 1 студзеня 2016 года падчас продажу тавараў лёгкай прамысловасці пры адсутнасці дакументаў пацвярджэння не прымяняецца адміністрацыйнае ўздзеянне.

Але выкананне абавязковых патрабаванняў тэхнічных нарматываў па якасці, маркіроўцы не адмененае.

За продаж прадукцыі, якая не адпавядае тэхрэгламентам Мытнага і Еўразійскага эканамічнага саюзаў можна атрымаць штрафы. Фізічная асоба – ад 20 да 50 базавых велічынь, прадпрымальнік ці юрасоба – да 100% ад цаны рэалізаванай прадукцыі, але не менш за 200 базавых велічынь (36 мільёнаў рублёў).

**Святлана ДЗЕРАВЯНКА,**
**галоўны дзяржаўны інспектар аддзела дзяржаўнага нагляду за патрабаваннямі тэхрэгламентаў і стандартаў і дзяржаўнага метралагічнага нагляду Маладзечна.**

● МАСТАЦТВА

# Што застаецца пасля мастака

МАЛАДЗЕЧНА

**Мастакі пакідаюць нас, але застаюцца іх творы, вучні і ўспаміны. Мой даўні сябра Васіль Міхайлавіч Лазоўскі вельмі шмат дапамог мне як педагог. Яго педагагічны талент высока цаніў мастак Юры Герасіменка-Жызнеўскі.**



Фота з архіва Юрыя ЦЕРАБУНА.

**Мастакі. Злева направа ад першага шэрагу: Наталля Чырвонцава, Вікторыя Чырвонцава, Вольга Роўда, Генадзь Селядзец, Наталля Трус, Сямён Кісель, Васіль Таркан, Васіль Лазоўскі, Наталля Сарока.**

Калі мне давялося пісаць жывапісны твор "Вязынка. У хаце паэта", Васіль Міхайлавіч не браў у рукі мой пэндзаль, а толькі раіў, як зрабіць так, каб было лепш.

Ён параіў напісаць пыл, што высвечваўся сонечнымі промнямі з акна. На маё здзіўленне, маэстра казаў: "Рабіце. У вас усё атрымаецца". Гэтыя тонкія педагагічныя словы засталіся ў маёй памяці на ўсё жыццё.

Акрамя гэтага Васіль Міхайлавіч параіў зрабіць з кардону макет пакоя і звонку даць падсветку, каб бачыць, як кладзецца асвятленне на стол, падлогу, прадметы інтэр'ера з двух акон. Адразу ўсё стала на сваё месца.

У свой час, амаль 50 год таму, мне давялося вучыцца ў студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва пры Маладзечанскім абласным Доме народнай творчасці. Выяўленчае мастацтва было, ёсць і будзе маёй крыніцай натхнення, хоць усё жыццё і выкладаў цымбалы.

У мяне вучыўся сын Васіля Міхайлавіча **Янка Лазоўскі**. Васіль Міхайлавіч заўсёды марыў, каб Янка іграў на цымбалах. Янка запомніўся, як тонкі, далікатны і не без здольнасцяў, адзіны на той час у класе хлопчык.

У сваім жыцці Васілю Міхайлавічу пашчасціла спаткацца з вядомым беларускім мастаком **Альгердам Адамавічам Малішэўскім** (1922-1989), заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны.

Калі ў Альгерда Малішэўскага запыталі, што для яго жывапіс, ён адказаў:

– Для мяне жывапіс – гэта яго Вялікасць, гэта тое, што дадзена Богам, гэта ўсё маё жыццё.

Вось у каго вучыўся жывапісу наш Васіль Лазоўскі.

Вельмі прыгожае спалучэнне фарбаў, каларыт і высокая культура жывапісу заўсёды вылучалі творы Васіля Міхайлавіча на любой выставе, і ён быў вельмі ўдзячны свайму настаўніку.

Пасля заканчэння навучальных устаноў большасць мастакоў размяркоўвалася на працу ў афармільцельскі цэх Мінскага мастацка-вытворчага камбіната. Выконвалі рознага роду заказы для прадпрыемстваў, калгасаў, бібліятэк, Дамоў культуры.

Такая майстэрня была і ў Маладзечне ў падвале аднаго з жылых дамоў каля калгаснага рынку. Там працавалі нашы мастакі.

Ішоў час. Інфармацыйныя шчыты на тэмы, колькі ў краіне будзе сталі, нафты, вугалю, збожжа, мяса і малака на душу насельніцтва, аказаліся непатрэбнымі.

Заказаў не стала, і майстэрні закрылі.

Мастакі засталіся без працы і былі вымушаныя падацца ў педагагічную дзейнасць, што дазвалялі іх дыпломы.

Рэспубліканскія выставы станавіліся нявялічкімі. Палац мастацтваў у Мінску па вуліцы Казлова страціў сваё прызначэнне. Зімой у ім былі такі холад, што экспазіцыі дазвалялі глядзець у верхняй вопратцы. Шыльдачка з прабачэннем вісела ў гардэробе. Каб неяк выжыць, памяшканне сталі здаваць у арэнду пад гандлёвыя пункты. Творы ў мастакоў не закуплялі, бо не ведалі, што рабіць з ужо набытымі.

Знятыя з падрамнікаў, у рулонах, яны сталі марнавацца. Кіраўнікі ўстаноў самі вырашалі, які твор няхай пакуль павісіць, а які аднесці ў гараж.

**У такі складаны час нашы маладзечанскія мастакі не пайшлі на кірмашы гандляваць сваімі творамі. Яны і па сённяшні дзень застаюцца мастакамі, выкладчыкамі і творцамі.**

30 гадоў адпрацаваў у Маладзечанскай дзіцячай мастацкай школе выкладчык малюнка, жывапісу і кампазіцыі Васіль Лазоўскі. Кожны год па 4-5 выпускнікоў Васіля Лазоўскага паступалі вучыцца ў мастацкія навучальныя ўстановы Беларусі.

У гэтым годзе вучням будзе цяжка ўявіць, што Васіль Міхайлавіч больш не прыйдзе да іх на заняткі. Ён назаўсёды пакінуў школу, вучняў, сям'ю і сяброў па творчасці.

Не можа змірыцца з такой стратай у беларускім мастацтве і педагогіцы дырэктар Маладзечанскай дзіцячай мастацкай школы **Алена Кучко**. Шмат у чым Алена Валер'еўна лічыць яго і сваім педагогам.

Цяпер Алена Кучко заклапочаная тым, каб прысвоіць школе імя Ядвігі Раздзялоўскай. Вырашае юрыдычныя пытанні, сама шукае радню Ядвігі Раздзялоўскай у Польшчы, каб атрымаць іх згоду.

Калі не стала нашай дарагой мастачкі, мы з Юрыем Герасіменкам-Жызнеўскім вырашылі зрабіць ёй мемарыяльную дошку і сціплы надмагільны помнік з мікашэвіцкага каменя.

На адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме №5 па вуліцы Віленскай прыязджалі пасол Польшчы ў Беларусі і вядомы беларускі мастак, блізкі сябра Ядвігі Раздзялоўскай **Пётр Дурчын**.

Не скажу, што нашым мясцовым мастакам надавалася вялікая ўвага да іх жыцця, наяўнасці майстэрні і ўмоў для працы і творчасці.

Да сёння няма мемарыяльнай дошкі на доме, дзе жыў Юры Герасіменка-Жызнеўскі па пешаходнай вуліцы Прытыцкага.

Да гэтага часу не маем гарадской выставачнай залы. Творы мастакі выстаўляюць у розных калідорах і фае.

Не маем мы, як калісьці дамаўляліся, набору паштовак з гістарычнымі мясцінамі і паэтычнымі куточкамі Маладзечна ў замалёўках мясцовых мастакоў. Не маем і альбома з мастацкімі фота горада.

Нас ужо пакінула вялікая колькасць маладзечанскіх мастакоў. Гэта **Ядвіга Раздзялоўская, Кастусь Харашэвіч, Юрась Герасіменка-Жызнеўскі, Сямён Кісель, Пётра Лазоўскі, Рыгор Нарчук, Яўген Шчарбіцкі, Эмір Асановіч, Свялана Багрыцэвіч, Вікторыя Чырвонцава, Васіль Лазоўскі**.

А мы так і не маем магчымасці пагартаць старонкі іх творчасці.

Мастакі пішуць гісторыю роднага краю, і адносіны да іх павінны быць святымі. Гэта наш абавязак перад імі.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**мастак, былы выкладчык цымбалаў, пенсіянер, жыхар Маладзечна.**



Фота lit.bel.org.by.

**Школьнікі, настаўнікі, блізкія паэткі прыйшлі на вечар памяці ў Маркаве.**

● СУСТРЭЧЫ

## У Маркаве адбыўся вечар памяці паэткі Таццяны Сапач

МАЛАДЗЕЧНА

**26 жніўня, у дзень нараджэння паэткі Таццяны Сапач, на яе радзіме, у вёсцы Маркава, прайшлі паэтычныя чытанні.**

У іх узялі ўдзел **Сяргей Дубавец**, муж паэткі, **Уладзімір Арлоў, Віктар Шніп, Міхась Казлоўскі, Зміцер Бартосік, Вальжына Цярэшчанка, Барыс Пятровіч, Кася Камоцкая, Усевалад Сцебуракa** і многія іншыя.

Сёлета паэтычныя чытанні прайшлі не ў школе, як мінулыя гады, а на ганку роднай хаты, якую цяпер дагледае брат Таццяны з жонкай.

Віктар Шніп расказаў "Рэгіянальнай газеце", што з Таццянай сябраваў амаль 30 год, але калі даведаўся, што яны земляк і (Віктар Шніп нарадзіўся ў вёсцы Пугачы), быў нечакана здзіўлены.

– Я чамусьці думаў, што яна нарадзілася ў Вільні.

Раніцай паэты і пісьменнікі прыехалі ў Маркава, на могілках, дзе пахаваная Таццяна, усклалі кветкі.

– Потым паехалі ў вёску, дзе на ганку нас ужо чакалі школьнікі, настаўнікі, людзі, якія ведалі Таццяну, – працягвае Віктар Шніп.

Такія імпрэзы, кажа Віктар, заўсёды праходзяць цёпла і душэўна.

– А калі мы ад'язджалі з Маркава, у небе кружылі сотні буслоў. Я ведаю, што ў канцы жніўня яны адлятаюць у вырай, але менавіта ўчора мне падалося гэта вельмі сімвалічным.

### Пра паэтку

**Таццяна Сапач** нарадзілася 26 жніўня 1962 года ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У 1987 годзе заснавала культуралагічную праграму "Альбаросіка" на Беларускім радыё. У 2000–2001 гадах супрацоўнічала з радыёстанцыяй "Балтыйскія хвалі". Адна з аўтарак перадачы "Палітычная геаграфія" беларускай службы "Радыё Свабода".

Ад 1991 года рэдактар і аўтар праграмы "Віленскі сшытак" на Літоўскім нацыянальным тэлебачанні. Аўтар літаратурных перакладаў з літоўскай і польскай моў.

У 1992 годзе ў Таццяны Сапач выйшаў зборнік паэзіі "Восень", у 2008-м – "Няхай не пакіне нас восень".

Трагічна загінула ў аўтакатастрофе 27 снежня 2010 года.

Пахаваная на радзіме ў Маркаве.

**Наталля ТУР.**

### Верш, які Віктар Шніп прысвяціў паэтцы

**Балада Таццяны Сапач**
(26.08.1962–28.12.2010)

*Па віленскіх вулках няспешна ідзеш*
*І час тут няспешна ідзе, як ішоў,*
*І ў небе глыбокім, нібыта ў вадзе,*
*Аблокі, як гурбы вандроўных снягоў,*
*Плывуць над табою, навек маладой,*
*Хаваючы сонца, што плача святлом*
*На кроплі крыві, што не станунь травой,*
*Бо зоркамі станунь, і будзе кругом*
*Журботна і светла ад велічы іх,*
*Бы ў Храме ад свечак, што ў памяць тваю*
*Пастаўлены ўчора на век і на міг,*
*І я сёння ў Храме, як свечка стаю,*
*Каб ты не спыняла па Вільні хаду*
*І ў вершах жыла, у якіх мы жывём*
*І разам з табою п'ём неба ваду,*
*Сябе саграваем тутэйшым агнём,*
*Што ў нашых садах незабыўна гарыць*
*І будзе гарэць каля нашых крыжоў,*
*І будзе з вятрамі пра нас гаварыць,*
*Калі ўсе мы прыйдзем няспешна дамоў,*
*Куды ты прыйшла не адна без пары,*
*І не дарабіла, што ўмела рабіць,*
*І не далюбіла, умеўшы любіць,*
*Сяброў і Радзіму, і Вільні муры…*



Фота Настассі РОЎДЫ.

На ўрачыстай лінейцы ў маладзечанскай гімназіі №10 у аўторак, 1 верасня.

● АДУКАЦЫЯ

# Новы навучальны год: змены, цэны, кадры

**У аўторак у Беларусі пачаўся новы навучальны год.**

Паводле даных Мінадукацыі, да заняткаў сёлета прыступае амаль 965 тысяч навучэнцаў, у тым ліку 106,5 тысячы першакласнікаў (на 2,6 тысячы дзяцей больш, чым летась). Ва ўсіх школах дзень ведаў пачынаўся з урока "На цябе, наша моладзь, надзея!".

## Закрываюцца малакамлектныя школы

Сёлета ў краіне будзе зачынена 45 малакамплектных школ, дзе колькасць вучняў меншая за 25. У той жа час адкрываюцца тры новыя школы – у Пінску на 1 020 месцаў, у Гродне на 765 месцаў і ў Мінску на 1 020 месцаў.

## Навацыі

Адным з новаўвядзенняў новага навучальнага года стане ўвядзенне прафесійна арыентаванай профільнай адукацыі, скіраванай на атрыманне педагагічных, ваенных і іншых спецыяльнасцяў (педагагічныя класы, ваенна-патрыятычныя, прававыя і іншыя класы).

Навучэнцы педагагічных класаў у межах вучэбных гадзін будуць вывучаць прадметы на павышаным узроўні, як правіла, тыя прадметы, якія яны самі жадаюць выкладаць у будучыні, а таксама асвойваць праграму факультатыўных заняткаў "Увядзенне ў педагагічную прафесію. 10–11 клас".

Сёлета зацверджаны новы тыпавы вучэбны план агульнай сярэдняй адукацыі, скарэктаваныя навучальныя праграмы для вучняў першых, пятых і дзясятых класаў, прычым для дзясятых класаў праграмы распрацаваныя з улікам двух узроўняў вывучэння вучэбных прадметаў – базавага і павышанага. У пятых класах уведзены прадмет "Мастацтва (айчынная і сусветная мастацкая культура)".

## Кадравая праблема застаецца

У 2015 годзе на працу ва ўстановы адукацыі накіравана 5 036 маладых спецыялістаў. Да 1 студзеня 2016 года прадоўжаны эксперымент па апрабацыі галіновай сістэмы аплаты працы педагогаў у некаторых установах агульнай сярэдняй адукацыі. Гэта сістэма прадугледжвае надбаўкі да акладу ў памеры ад 5 да 20% за выкананне нароўні з асноўнымі – правядзенне вучэбных заняткаў – дадатковых функцый: арганізацыі харчавання, аздараўлення навучэнцаў, метадычнай працы, працы з адоранымі дзецьмі і інш.

Застаецца актуальнай кадравая праблема ў дашкольных установах і пачатковай школе. Паводле слоў старшыні камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама **Міхаіла Міронччыка**, у Мінску сітуацыя пагаршаецца з кожным годам. Для пераадолення дэфіцыту кадраў камітэт накіроўвае заяўку ў педагагічны ўніверсітэт па павелічэнні набору студэнтаў на гэтыя спецыяльнасці, аднак у 2014 годзе заяўка на падрыхтоўку настаўнікаў пачатковых класаў была выкананая на 10%, выхавальнікаў дашкольных устаноў – на 9%.

## Выбарнасць рэктараў, цэны за навучанне

Ад верасня ў Беларусі плануецца ўкараніць сістэму выбарнасці рэктараў ВНУ. Для ўдзелу ў выбарах кандыдаты ў рэктары павінны будуць прадставіць свае праграмы дзейнняў на разгляд савета ўніверсітэта, які затым зацвердзіць лепшыя з іх і падасць у Міністэрства адукацыі. Праграмы кандыдатаў павінны спрыяць развіццю ўніверсітэта ва ўсіх сферах, у тым ліку адукацыйнай, матэрыяльна-тэхнічнай, навуковай.

Уносіцца шэраг змяненняў у спіс профільных экзаменаў для паступлення ў ВНУ ў 2016 годзе. Напрыклад, для інжынерных спецыяльнасцяў, падрыхтоўка па якіх вядзецца ў БНТУ, па сельскагаспадарчых спецыяльнасцях для навучання ў БГАТУ, а таксама па спецыяльнасці "Праграмаваныя мабільныя сістэмы" для навучання ў БДУІР першым профільным прадметам вызначана матэматыка, другім – фізіка. У 2015 годзе першым профільным прадметам для гэтых спецыяльнасцяў была фізіка, другім – матэматыка.

Цэны за навучанне ў ВНУ сёлета змяняцца не будуць, заявіла на прэс-канферэнцыі 28 жніўня намеснік прэм'ер-міністра **Наталля Качанава**. У той жа час некаторыя ВНУ ўжо павысілі цэны для першакурснікаў. Паводле слоў Качанавай, у гэтым выпадку гаворка ідзе "не пра павышэнне цэн, а пра ўстанаўленне тых затрат, якія нясе сёння ВНУ для навучання гэтага маладога чалавека".

**Паводле Анастасіі САЛАНОВІЧ, БелаПАН.**

### Гімназіі перавялі на самафінансаванне

Якім чынам працуе сістэма самафінансавання, на якую сёлета перавялі гімназіі №6 і №10 у Маладзечне? Самафіансаванне плануюць зрабіць практыкай па ўсёй вобласці. Якія перавагі атрымаюць школы? Пра гэта распавядзе дырэктар гімназіі №10 **Таццяна Камкова**.

Чытайце ў наступным нумары.

● ПРАКУРАТУРА, СУД

## Калі вы сутыкнуліся з гвалтам у сям'і, адразу звяртайцеся па дапамогу

МАЛАДЗЕЧНА

Гвалт у сям'і – наўмысныя дзеянні фізічнай, псіхалагічнай, сэксуальнай накіраванасці аднаго члена сям'і ў дачыненні да другога. Ён парушае правы, свабоды, законныя інтарэсы, стварае фізічныя ці псіхічныя пакуты.

Грамадзяніну, які вінаваты ў гвалце ў сям'і, выносяць абароннае прадпісанне, якое абмяжоўвае пэўныя дзеянні. Найперш забараняюць наступнае:

- спрабаваць высвятляць месца знаходжання пацярпелага ад гвалту ў сям'і;
- наведваць месцы знаходжання пацярпелага, калі абодва жывуць не разам;
- падтрымліваць зносіны з пацярпелым, у тым ліку па тэлефоне, праз інтэрнэт.

Пракуратура Маладзечанскага раёна нагадвае, калі вы апынуліся ў складанай жыццёвай сітуацыі, звязанай з гвалтам у сям'і, то можаце звярнуцца па псіхалагічную дапамогу ў раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва. Пры ім існуе "крызісны пакой" для ахвяр гандлю людзьмі, ахвяр гвалту, тэрарыстычных актаў, тэхнагенных катастроф і стыхійных бедстваў. Тэлефон даверу: **(80176) 74-66-20**.

**Карына САРАЧЫНСКАЯ, памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

● ВЫТВОРЧАСЦЬ

## Расіяне паставяць ванны дэзактывацыі для АЭС

АСТРАВЕЦ

АТ "СвердНДІхіммаш", якое ўваходзіць у машынабудаўнічы дывізіён Расатама – Атамэнергамаш, заключыў кантракт на пастаўку ваннаў дэзактывацыі для Беларускай АЭС, паведамілі на расійскім прадпрыемстве.

Абсталяванне прызначанае для выдалення радыеактыўных адкладанняў з паверхняў вузлоў прыводаў сістэмы кіравання і засцярогі рэактара з мэтай зніжэння магутнасці дозы гамавыпраменьвання перад правядзеннем рамонтных работ.

Беларуская АЭС будуецца прыкладна за 20 кіламетраў ад Астраўца па праекце расійскай кампаніі "Атамбудэкспарт".

**Паводле Марыны НОСАВАЙ, БелаПАН.**

● МЕРАПРЫЕМСТВЫ

# У Палачанах зладзілі свята для коней

МАЛАДЗЕЧНА

**Свята адбылося 30 жніўня ў конна-спартыўным комплексе "Палачаны".**

Яго прымеркавалі да дня святых Фрола і Лаўра, якіх лічаць заступнікамі коней.

У нядзелю тут ўсё было для коней. Арганізатары загадзя нагадвалі ўсім, хто збіраецца на свята, прыхапіць з сабой моркву ці цукар.

Усе ахвотныя, а іх было нямала, маглі паглядзець на спартыўныя спаборніцтвы, на конкурс прыгажосці сярод коней. Пакарміць жывёл морквай і цукрам, паўдзельнічаць у розных конкурсах, пакатацца на конях і набыць сувеніры на памяць.

Як прызналіся арганізатары свята, яны не чакалі, што збярэцца столькі наведнікаў. Маладыя коні нават нерваваліся, бо ўпершыню бачылі такую колькасць людзей.

Загадчык каняфермы **Уладзімір Пятроў** кажа:

– Ну, гэта маладыя нервуюцца, а для большасці нашых коней такая ўвага звычайная справа. Напрыклад, наша кабыла Бабета, якой цяпер 20 год, не адзін раз прымала ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах. Цяпер яна на заслужаным адпачынку, але працягвае працаваць у пракаце.

Бабета, як і многія іншыя коні, удзельнічала ў дэманстрацыі вобразаў.

Работнікі канюшні, коннікі і іх сябры прыдумалі для сваіх падапечных розныя вобразы: каўбоя, Гары Потэра, нявесты і нават танка Т-34. Смешна глядзеўся конь, у якога на лбе быў прымацаваны вясёлкавы рог.

Чула, як дзяўчынка з глядацкай трыбуны ўсклікнула:

**– Ой, аднарогі ўсё ж такі існуюць!**




Вярхом на кані Грынпісе спартсменка 2 разраду Веста Высоцкая.

Пасля першай часткі прадстаўлення гледачам сумаваць не даваўлася, таму што ў гэты час можна было спакойна зазірнуць у канюшні, пагладзіць коней, паразмаўляць з імі і, вядома, пачаставаць.

**Наталля Шаліма**, дырэктар спартыўнай школы, папярэджвала ўсіх:

– Карміце морквай або цукрам, не давайце коням яблыкі, ад іх у коней пушыць.

– Не ўсе коні любяць цукар, – кажа Уладзімір Пятроў. – Напрыклад, наш Граф вельмі абыякава ставіцца да цукру, затое не прапусціць магчымасці пачаставацца хлебам.

**– Вы ўсіх коней звычкі ведаеце?**

– А як жа. І ўсіх па клічках. А ў мяне 130 галоў. Раніцай, калі заходжу ў канюшню, вітаюся: "Здарова, дзеўкі!", і ўсе дружна сваім іржаннем адказваюць.

У другой частцы праграмы саліравалі спартсмены, якія вучацца верхавой яздзе ў Палачанах, а таксама аматары, якія ў вольны час прыязджаюць у Палачаны, каб з карысцю правесці час.

Аматары, сярод якіх былі старшакласніцы, настаўнік маладзечанскай школы №1 і зваршчык з Маладзечна прадэманстравалі элементы аб'ездквання коней.

Спартсмены ж пераадольвалі восем бар'ераў.

**Гледачы змаглі на свае вочы пабачыць, як элегантна коні скачуць праз бар'еры вышынёй 120 сантыметраў.**

А таксама ўбачылі, што, калі конь не ў настроі, ён можа проста адмовіцца скакаць. І спартсмен, калі не праверыць усю вупраж, можа зваліцца з каня.

Напрыканцы свята кожны змог пакатацца на конях, а таксама прыняць удзел у спартландыі і ў спаборніцтвах па дартсе.

Цікава, што пераможца ў конкурсах атрымоўваў тры морквы, якімі пасля можна было пакарміць таго каня, які больш за іншых запаў у душу.

А потым коні адпачывалі, таму што, як расказалі работнікі канюшні, іх нельга эксплуатаваць больш за дзве гадзіны ў дзень.

А калі вы захацелі на свае вочы пабачыць гэтых прыгажуноў, пакарміць іх і пакатацца, вас чакаюць у Палачанах у сераду, чацвер, суботу і нядзелю.

**Больш фота на сайце**






**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

● ПАРАДЫ ПСІХОЛАГА

# Як паспець адпачыць за выхадныя і не стамляцца за рабочы тыдзень

**Большасці людзей прадуктыўна адпачываць у выхадныя перашкаджае неарганізаванасць і велізарная колькасць бытавых праблем.**

Змагацца з бытам можна некалькімі шляхамі. Па-першае, смела перакладайце частку хатніх спраў на іншых. Па-другое, навучыцеся атрымліваць ад гэтых спраў задавальненне.

Заходнія кар'ерысты ў імкненні рацыянальна арганізаваць жыццё пайшлі яшчэ далей: яны плануюць абсалютна ўсё: і адпачынкі, і выхадныя. У пятніцу ўвечары запішыце на паперы, як хочаце правесці суботу і нядзелю. Успомніце літаральна ўсё, вялікія і маленькія справы. Потым абярыце са спісу пяць самых неадкладных або прыемных заняткаў – больш вы наўрад ці паспееце.

Складзіце сабе расклад: калі вы хочаце ўставаць (совы ў выхадныя спяць да паўдня, і гэта нармальна), чым зоймецеся спачатку, што будзеце рабіць потым. Зрабіце падобныя графікі на месяц – і перастанеце мітусіцца па дробязях, пачнеце паспяваць значна больш.

Загадзя аплачвайце свой адпачынак. Калі ў нядзельны дзень вы думаеце, што ніядрэнна было б паглядзець новы спектакль, – вялікае пытанне, адправіцеся вы ў тэатр ці не. Калі ж білеты набылі загадзя, лішніх роздумаў не ўзнікне.

Псіхолаг **Дэйл Карнегі** раіць: калі хочаце стварыць моцную і дружную сям'ю, навучыцеся адпачываць разам.

Хаця б адзін выхадны дзень або паўдня праводзьце разам. Падсілкоўвайце адзін аднаго. Любячыя муж і жонка звычайна пранікаюцца інтарэсамі другой палавінкі, а таксама сваіх дзяцей.

## Рэкамендацыі, якія дапамогуць правільна размеркаваць вольны час:

1. Не чакайце выхадных як манны нябеснай, расслабляйцеся кожны дзень. Вазьміце за правіла два разы на тыдзень хадзіць у басейн (кіно, кафэ, на вячэру да бацькоў і інш.) Людзям, моцна загружаным зносінамі і размовамі, можна параіць увечары паўгадзіны-гадзіну правадзіць у адзіноце за кубкам гарбаты або чытаннем кнігі.

2. Адпачывайце і на працы цягам дня. Хутчэй справіцеся з заданнем, калі падзеліце гадзіну на 50 хвілін працы і 10 хвілін адпачынку.

3. Адзін з самых лёгкіх спосабаў расслаблення. На некалькі хвілін сканцэнтруйце ўвагу на дыханні, сачыце толькі за ім, за яго глыбінёй і частатой. Уявіце, што кожны ўдых нясе вам новыя жыццёвыя сілы (так яно і ёсць на самой справе). Канцэнтрацыя на дыханні дазволіць вам дамагчыся кантролю над сваёй псіхікай.

4. Расслабленню спрыяе таксама любое фізічнае практыкаванне. Простае пацягванне, кругавыя рухі ступнямі, размінка пальцаў на руках і нагах паляпшаюць самаадчуванне і павышаюць працаздольнасць.

Каб выхадныя былі цікавымі і выніковымі, размяркоўвайце задачы правільна. У першы дзень з раніцы трэба выканаць усе важныя справы. Старайцеся зрабіць іх хутка, каб потым проста забыцца пра тое, што ўсё гэта было. Паміж выкананнем абавязковых спраў можна ўстаўляць і тыя рэчы, што ўваходзяць у спіс адпачынку, напрыклад, званок сяброўцы ці прагляд любімага фільма. Калі чалавек не зрабіў нешта важнае, калі ў яго не скончаныя справы, ён не можа расслабляцца ў поўнай меры. Дзесьці ў падсвядомасці блукае думка пра тое, што трэба дарабіць задуманае, і гэта перашкаджае атрымліваць асалоду ад адпачынку.

Не дапускайце гэтага, рабіце спачатку справы, а адпачываць адпраўляйцеся потым. Адзначайце зробленае ў спісе, стаўце птушачку, калі нешта ўжо скончылі. Гэта дапамагае рухацца далей, дорыць упэўненасць, дае сілы выконваць нешта яшчэ. Кожная адзнака будзе радаваць, напаўняць дзень сэнсам. І ў выніку ў канцы выхадных будзе палучцё задаволенасці ад таго, што ўсё прайшло вельмі эфектыўна.

Лепш адпачываць патроху і часцей. Кожны дзень рыхтуйце падарунак – гадзіну задавальнення. Тады не давядзецца высякаць з жыцця выхадныя, а потым з цяжкасцю ўключацца ў працоўны рэжым.

**Кацярына КОЗЕЛ,**
**псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.**

ВАНДРОЎКІ

# ІСЛАНДЫЯ
## АЎТАСПЫНАМ ПА КРАІНЕ ВІКІНГАЎ

**Ісландыя – гэта востраў вулканічнага паходжання.**

Удумайцеся – людзі жывуць на вулкане. І больш за тое, ён акружаны спячымі вулканамі з усіх бакоў.

Безліч вадаспадаў, гейзераў, ледавікоў… Вельмі прыгожа і вельмі небяспечна.

Гэты кантраст і прыцягвае тысячы турыстаў з усяго свету. Саміх жа ісландцаў (насельніцтва ўсёй краіны) няшмат – усяго 328 тысяч чалавек. Гэта па колькасці амаль супадае з нашым Гроднам (338 тысяч чалавек).

Першае, на што звяртаеш увагу ў гэтай краіне вулканаў: разнастайнасць і неймаверная энергетыка краіны.

У кастрычніку 2014 года я ўжо дакладна ведала, што траплю ў гэту краіну. Пачала праз знаёмых турыстаў пытацца, ці збіраецца хто падарожнічаць па Ісландыі. Даволі хутка знайшла чалавека, які з Беларусі водзіць у паходы, у тым ліку ў Ісландыю. Спісалася з ім. Дамовілася. І ўсё б "ок" – сядзі і чакай паходу.

Але не! Нейкая сіла падняла мяне на тое, каб адмовіцца ад групавога паходу і паехаць адной ці максімум у пары аўтаспынам па Ісландыі. Гэта пры тым, што англійскай мовай валодаю дрэнна.

Цяпер я разумею, што ніякі паход не даў бы мне той досвед, які атрымала ў самастойным падарожжы. А на той час трывога напаўняла мяне да краёў.

Але спадарожніца знайшлася. **Маша** з Апатытаў Мурманскай вобласці. Мінулым летам я была ў гэтым паўночным горадзе падчас не менш цікавага паходу па Хібінах.

Маша чатыры гады недаядала: збірала грошы на Ісландыю.

Мне здаецца, што гісторыя з Ісландыяй – гэта гісторыя пра тое, як жаданні не выпрабоўваюць. Хацела ў Ісландыю – атрымай! Але ў прыдачу: хмары камароў, дождж "па вушы", вецер, што хіліць цябе да зямлі. Але, калі жаданне сапраўднае, то ўсё вышэйпералічанае ўспрымаецца, як прыступка да сваёй мары.

Наш з Машай маршрут гучаў так: вакол Ісландыі, па дарозе №1 разам паўтара тыдня, затым я вандрую па заходніх ф'ёрдах самастойна, маўляў, буду ўжо ў тэме.

Я рэальна адчувала сябе ў большай бяспецы, чым дома. Гэта праўда. Тут людзі давяраюць адзін аднаму. "У нас мінімум паліцыі. На гэта няма патрэбы" – распавядаў кіроўца-ісландзец.

Ісландыя лічыцца адной з самых бяспечных краін свету. Напрыклад, ровары ісландцы пакідаюць ля сваіх дамоў без замкоў. Абутак пакідаюць на ганку, нават калі ганак выходзіць на аўтамабільную трасу.

Асабістыя рэчы можна пакінуць у грамадскім месцы, прыйсці праз пяць гадзін і знайсці ўсё на сваіх месцах.

Ісландыя – вельмі дарагая краіна. З гэтым згодныя ўсе: і турысты, і самі ісландцы, хаця зарплаты ў іх высокія.

"У нас няма бедных ці багатых, з большага ўсе роўныя. Калі ж нехта атрымоўвае шмат грошай, то плаціць і больш падатак". Менавіта ў Ісландыі ўзнік першы ў Еўропе парламент – альтынг. Да прыкладу: праезд у грамадскім транспарце ў сталіцы Ісландыі Рэйк'явіку каштуе 400 ісландскіх крон. Гэта каля 50.000 на нашы грошы.

Давялося падумаць пра эканомію яшчэ дома, з сабой набралі кашы. У аэрапорце купілі кемпінг-карту, якая дазваляла начаваць у 42 кемпінгах па ўсёй Ісландыі.

Тыповы кемпінг меў кухню, на якой можна было прыгатаваць ежу, магчымасць падзарадзіць дэвайсы, душ, туалет, месцы для ўсталявання намётаў. За дадатковы кошт: сушылка, пральная машына, інтэрнэт (не заўсёды). І асобна палічка – free: тыя турысты, якія з'язджалі дамоў і не паспявалі з'есці, пакідалі свае харчы на такой палічцы.

Чым бліжэй кемпінг знаходзіўся да гор, тым колькасць выгод у ім змяншалася. Але самыя прыгожыя кемпінгі былі менавіта ў гарах.

Цікава, што кемпінг-карту амаль нідзе не правяралі. Ісландцы вераць у добрасумленнасць чалавека.

### Крама "Bonus"

Сетка самых танных гіпермаркетаў па ўсёй краіне. Таму было за шчасце на сваім шляху сустрэць гэту краму. І набыць там ёгурт са смакам кавы. Ісландцы ведаюць толк у "малочцы". Малако коз, авечак, якіх вельмі шмат па ўсёй краіне.

### Абутак

Калі накіроўваецеся ў гэту краіну, не спрабуйце эканоміць грошы на абутку. Я маю на ўвазе трэкінгавыя боты. Хадзіць давядзецца многа, ды па камянях, на далёкія трэкі.

У Ісландыі ёсць прымаўка: "Калі вам не падабаецца надвор'е – пачакайце яшчэ 5 хвілін, і яно будзе яшчэ горшае!" Надвор'е ў Ісландыі вельмі хутка змяняецца: ты ў майцы, а праз 15 хвілін на табе цёплы світар і дажджавік. Калі дождж, то надоўга. Калі вецер, то на ўсю катушку.

### Ісландскі аўтаспын

Працуе вельмі добра. Наша першая машына спынілася пасля трох кіламетраў няспешнага шпацыру ад аэрапорта. Я проста істэрыла ад радасці. Маша супакойвала мяне і казала ісландцу, што маўляў вось як дзейнічае Ісландыя на чалавека.

Хто толькі нас не падвозіў: ісландцы, тайландка, французы, немцы, паляк, італьянцы, іспанцы, аўстрыйцы, амерыканцы – нью-ёркскі хлопец, які працуе ў Фэйсбуку, сям'я з Каліфорніі. Было і такое: доўга выходзілі з горада (гэта самае складанае ў аўтаспыне – выйсці на патрэбную трасу з вялікага горада). Вечарэла. Аўтамабілі праносіліся міма.

Ехаць да стаянкі нанач было дастаткова доўга. Праносіцца пазадарожнік. Бачым, машына збаўляе хуткасць, разварочваецца і пад'язджае да нас. З пазадарожніка выходзіць вікінг. Калі коратка, то вікінг у сучасным паняцці, гэта статны ісландзец, які ведае, што па чым у гэтым свеце. Кажа: "Садзіцеся, падкіну".

Ці вось: калі я ўжо вандравала адна, чалавек, які мяне падвозіў, патэлефанаваў сваёй знаёмай, якая якраз рухалася у патрэбнае мне месца, і "перасадзіў" мяне да яе.

Да прыкладу: адна паездка ў адзін бок у нацыянальны парк каштуе каля 60 еўра. Вось і што б я паглядзела ў Ісландыі, каб не аўтаспын?

### MAPS.ME

Праграма офлайн дэталёвых карт краін усяго свету. Дазваляе адсочваць сваё месцазнаходжанне, падлічваць кіламетраж, пракладваць маршрут.

Раю перад самастойным падарожжам абавязкова запампаваць яе сабе.

Калі я прыляцела з Рэйк'явіка ў Вільню пасля 23:00, я сутыкнулася з тым, што цягнікі, якія курсуюць ад аэрапорта да чыгункі ў Вільні, ужо не ходзяць. Таксі не разглядаю. Дастаю MAPS.ME, і праз гадзіну я на месцы.

Галоўнае мець дадатковую прыладу для батарэі.

Такім чынам, галоўнае даляцець да Ісландыі, а краіна прыме, як трэба.

P. S. Мяне часта ісландцы прымалі за сваю. А можа, мае карані менавіта ў гэтай краіне?

**Воля ТРУБАЧ.**



Воля Трубач (злева) з сяброўкай Машай з Расіі ля ісландскага ледніка.

Фота забяспечана Воляй ТРУБАЧ.

АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧАНШЧЫНЫ

# У Маладзечне сланоў вадзілі

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэта не новая рэдакцыя байкі Крылова пра "Слана і Моську".**

Насамрэч, 1 верасня на вуліцы Тамары Дудко а 14-й гадзіне з'явіліся тры сланы.

Фотаздымак у рэдакцыю даслаў чытач **Арцём Лантас**.

– Прыязджаю я на выклік па рабоце, – расказвае Арцём, – а па пешаходнай дарожцы гуляюць тры сланы. Здзівіўся, вядома.

У мінакоў адразу з'явілася версія, што камусьці падарылі сланоў на Дзень ведаў. Але ўсё аказалася значна прасцей – у Маладзечна прыехаў цырк.

**Наталля ТУР.**



Фота Арцёма ЛАНТАСА.

Слон прагульваецца па вуліцы Тамары Дудко.



СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 7 | | | | 1 | |
| | 1 | | | 4 | 5 | 3 | | 7 |
| 7 | | | | | | | | 4 |
| | | 2 | | 8 | | | | |
| 8 | | 7 | | | | 6 | | 2 |
| | | | | 7 | | 5 | | |
| 4 | | | | | | | | 8 |
| 6 | | 9 | 1 | 2 | | | 3 | |
| | 3 | | | | 9 | | | |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Крымінальная камедыя "**Агенты U.N.C.L.E.**" (ЗША, 2015, з 16 год)
4 верасня – у 17:30
5 верасня – у 15:30
7 верасня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, баявік, фантастыка "**Фантастычная чацвёрка**" (ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 верасня – у 13:30
6 верасня – у 13:00
9 верасня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Канікулы**" (ЗША, 2015, з 18 год)
4 верасня – у 20:00
5 верасня – у 18:00
6 верасня – у 17:00
9 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер, крымінал "**Хітмэн: Агент 47**" (Германія, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4, 5 верасня – у 22:00
6 верасня – у 15:00 і 19:00
8 верасня – у 19:00
7, 9 верасня – у 21:00
Цана білета: 45 000-50 000

Прэм'ера! Камедыя, трылер "**Хлопец з нашых могілак**" (Расія, 2015, з 16 год)
5 верасня – у 20:00
6, 8 верасня – у 21:00
10 верасня – у 17:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, баявік "**Атака Тытанаў. Фільм першы: Жорсткі свет**" (Японія, 2015, з 16 год)
10 верасня – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер "**Перавозчык: Спадчына**" (Францыя, Кітай, 2015, з 16 год)
10 верасня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, прыгоды, фантастыка "**Робаты**" (Малайзія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
6 верасня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Прыгоды мышаняці**" (Перу, Аргенціна, 2013, без узроставых абмежаванняў)
5 верасня – у 16:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Лясны патруль**" (Нарвегія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
5 верасня – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, сямейны, прыгоды "**Тэд Джонс і згублены горад**" (Іспанія, 2012, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
4 верасня – у 17:00
6 верасня – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя "**Прывід**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
6 верасня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка, трылер "**Галодныя гульні: Сойка-пераснешніца. Частка 1**" (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
4 верасня – у 19:00
5 верасня – у 18:30
6 верасня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў



Драма, трылер "**Вядзьмарка**" (Расія, 2015, з 16 год)
4 верасня – у 21:30
7 верасня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**8 новых спатканняў**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 верасня – у 21:00
7 верасня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Варушы ластамі 2**" (Бельгія, ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
8 верасня – у 18:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды, сямейны "**Суперкаманда**" (Аргенціна, Іспанія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
9 верасня – у 18:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Чароўная краіна**" (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
10 верасня – у 18:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Фэнтэзі, меладрама, прыгоды "**Па-за часам**" (Аўстралія, 2014, з 16 год)
8, 10 верасня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер "**Небяспечнае пагружэнне**" (Вялікабрытанія, 2015, з 16 год)
9 верасня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Баявік, крымінал "**13-ы раён**": Цагляныя асабнякі" (Францыя, Канада, з 16 год)
4, 5 верасня – у 20:00
6 верасня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Пакт 2**" (ЗША, пасля 16 год)
4 верасня – у 18:00
5, 6 верасня – у 20:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Самыя праўдзівыя гісторыі**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
5 верасня – у 13:30
6 верасня – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Пушыстыя супраць зубастых**" (Паўднёвая Карэя, без узроставых абмежаванняў)
5 верасня – у 15:00
6 верасня – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя "**Хлопец з нашых могілак**" (Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
4, 6 верасня – у 18:30
5 верасня – у 20:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, трылер "**Не ў сабе**" (ЗША, з 16 год)
4, 5 верасня – у 20:30
6 верасня – у 16:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, баявік, фантастыка "**Фантастычная чацвёрка**" (ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
5 верасня – у 14:00
6 верасня – у 20:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Крымінальная камедыя "**Агенты U.N.C.L.E.**" (ЗША, 2015, з 16 год)
5 верасня – у 16:00
6 верасня – у 13:30
Цана білета 45 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Канікулы**" (ЗША, 2015, з 18 год)
5 верасня – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

ГАРАСКОП
4-10 ВЕРАСНЯ

**Авен.** Крыніцай натхнення стане для вас работа. Нават калі яна забярэ шмат сіл і часу, затое падорыць маральнае задавальненне і добрае матэрыяльнае ўзнагароджанне.

**Цялец.** Вы пакорыце ўсіх вострым розумам, неардынарным мысленнем, пачуццём гумару.

**Блізняты.** Апасайцеся надта заманлівых прапаноў. Каб зарабіць, трэба шмат працаваць. Але і не ўзвальвайце на сябе празмерны груз адказнасці, бо гэта можа неспрыяльна адбіцца на сямейных адносінах.

**Рак.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**Леў.** Перад вамі адкрываюцца цудоўныя перспектывы, але гэта не значыць, што вам трэба спяшацца. Наадварот, перыяд патрабуе ад вас скрупулёзнасці і ўзважанасці. А калі будзеце ўсё рабіць бягом, то можна праляцець сваю ўдачу без прыпынку.

**Дзева.** Стрымлівайце жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць "уласную" праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям.

**Шалі.** Жыццё такое, якое яно ёсць. У ім ёсць усё. І вясёлае, і сумнае. І яркае, і цьмянае. Толькі пытанне ў тым, якія лінзы вы надзяваеце, калі разглядаеце тое, што вакол.

**Скарпіён.** Вы будзеце думаць, што з'яўляецеся прафесіяналам ва ўсіх сферах, і будзеце раздаваць парады па любым пытанні. Але варта ведаць, што ўсе разважанні неабходна пацвярджаць практыкай.

**Стралец.** Не зацыклівайцеся на дробязях, вас чакаюць вялікія справы. Але поспех будзе залежаць ад вашай здольнасці цвяроза ацаніць сітуацыю. Не гарачыцеся і не панікуйце. Усё добра абдумайце.

**Казярог.** Стрыманасць і спакой – неабходныя ўмовы для захавання высокага жыццёвага патэнцыялу і добрага адчування на працягу ўсіх дзён.

**Вадалей.** Не бойцеся быць шчаслівымі. Калі вы задаволены і шчаслівы, свет вакол вас пачынае мяняцца ад вашага пазітыўнага настрою.

**Рыбы.** У выхадныя больш часу ўдзяляйце адпачынку, бо ад гэтага будзе залежаць ваша душэўная раўнавага.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991–7155

9 771991 715006

Камент-эксперт
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27

● НАДВОР'Е

## 5 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +18 | | +14 / +19 | | +13 / +16 | | +10 / +16 | |
| | 739 | ↖ 2 | 738 | ↗ 3 | 733 | ↑ 1 | 734 | ↗ 5 |
| Вільня | +10 / +16 | | +11 / +19 | | +13 / +17 | | +10 / +13 | |
| | 749 | ↙ 1 | 746 | ↗ 5 | 742 | ↗ 6 | 740 | ↑ 6 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне

Усход 6.15
Захад 20.11
Даўжыня дня 13.56

Усход 19.50
Захад 5.36
Квадра 3

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +14 / +19 | 744 | → 3 |
| Гродна | +13 / +19 | 744 | ↗ 6 |
| Мінск | +14 / +19 | 738 | ↗ 3 |
| Магілёў | +13 / +19 | 744 | ↗ 4 |
| Брэст | +9 / +18 | 744 | ↑ 3 |
| Гомель | +17 / +19 | 748 | → 4 |

● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +1,1 °С у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +26,6 °С у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 27,9 мм у 2009 годзе
Назіранні за 38 гадоў. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Шматдзетная маці з Чысці штодзень вымушаная з пятага паверха выводзіць сваіх дзяцей на вуліцу. Дадайце да гэтага, што сама маці хворая на сэрца. Чаму ж ніхто не ідзе насустрач, чытайце праз тыдзень.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці трэба рабіць алкаголь больш даступным?

**У Мінскай вобласці на мінулым тыдні знялі абмежаванні па продажы алкагольных, слабаалкагольных напояў і піва ў крамах ад 22:00 (у некаторых раёнах 21:00) да 9:00.**

**Вячаслаў Аноп, будаўнік:**
– Абмежаванне я пакінуў бы. Яго адмена звязаная з фінансавымі прычынамі – так папаўняюць бюджэт. Складана сказаць, ці была гэта мера дзейснай. Калі не прадаюць у магазінах, тады за гэты кошт нажываюцца "левыя" прадаўцы. Пладова-ягадныя напоі, я лічу, не самыя благія. Раней увогуле пілі адэкалон.

**Марыя Кузмітовіч, касірка:**
– Адмяняць абмежаванне не трэба, таму што співаецца моладзь, нацыя співаецца. Зараз усялякі кантынгент п'е, ад малога да вялікага. Там, дзе я жыву, раней крама да двух ночы алкаголь прадававала: шумна, машыны, пастаянныя пасядзелкі на лаўках па начах, бойкі. Калі забаранілі, то ўсё гэта спынілася.

**Ірына Сідарэвіч, пенсіянерка:**
– Раней пілі хоць што, таму часцей у бальніцах былі. А цяпер, калі хочацца, пайшоў у краму і купіў. Не трэба шукаць "кропкі", не трэба піць падазроны самагон – я лічу, што тут крамолы няма. Калі чалавеку трэба, ён усё роўна купіць.

**Дзмітры Янушка, прадпрымальнік:**
– Я катэгарычна супраць таго, каб алкаголь быў такім даступным. Абгрунтаванне: чалавек, які п'е, акрамя таго, што разбурае сваё фізічнае здароўе, таксама з'яўляецца негатыўным прыкладам для дзяцей. А пладова-ягадныя віны ўвогуле не нясуць ніякай карысці, таму іх трэба выключыць з продажу.

**Юлія Русак, повар:**
– З абмежаваннем, я лічу, было не менш алкаголікаў, чым да яго. Калі падумаць, то лепей нават, каб прадавалі недзе якаснае, чым тое, што знаходзяць алкаголікі пасля дзевяці, незразумела дзе разлітае. А так ведаеш, што ў краме яны купяць больш якаснае і не будуць трапляць у бальніцы.

**Алеся Каспяровіч, цырульніца:**
– Трэба, каб было абмежаванне. Чым больш доступу да алкаголю, тым больш і тых, хто п'е. Хаця лепш, каб доступ да він быў, лепш яны будуць піць гэта, чым атручвацца. Але ўсё роўна, калі і прадаваць, то да пэўнага часу. Няхай паменшаць абмежаванне, дазволяць прадаваць пазней, чым да дзевяці вечара.

**Антон Каляга, студэнт:**
– Не думаю, што абмежаванне што-небудзь змяніла. Той, хто хацеў, заўсёды мог купіць раней. А што да пладова-ягадных напояў, то зусім бедныя алкаголікі наўрад ці будуць нават іх купляць.

Падрыхтавала
**Дар'я БАБЕНКА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№36 (1062) 4.09.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1144. Падпісана ў друк у 9.00 3.09.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.